На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№60 (1873)
Аўторак,6 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +5...+7, дождж, уначы — +2...+4, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +6...+8, дождж, уначы — +2...+4, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...+13, без ападкаў, уначы — +4...+6, дождж; у Гомелі ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +13...+15, без ападкаў, уначы — +6...+8, дождж.

www.meteo.by



**ПУЛЬС**

## Пачалося зніжэнне ўзроўню паводкавых водаў

Максімальны пад'ём узроўню вады ў Дняпры ў раёне Лоева чакаецца 6—8 красавіка.

На астатніх рэках, у тым ліку на Заходняй Дзвіне і Сожы, дзе былі перавышаны небяспечныя ўзроўні, адбываецца зніжэнне ўзроўню вады. На гэтых рэках спад вады пачаўся напрыканцы мінулага тыдня. На Заходняй Дзвіне ў раёне Віцебска, Полацка і Верхнядзвінска інтэнсіўнасць зніжэння складае да 33 сантыметраў за суткі. На Сожы ля Гомеля і Слаўгарада за суткі вада ўпала на 10 сантыметраў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Тыдзень бяспекі дарожнага руху

З 5 па 11 красавіка ў Беларусі праходзіць тыдзень бяспекі дарожнага руху, аб'яўлены Камітэтам па ўнутраным транспарце Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН.

Як паведаміў начальнік аддзела дарожна-патрульнай службы ўпраўлення дзяржаўтаінспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Аляксандр Свярчынскі, у рамках тыдня сярод удзельнікаў дарожнага руху пройдзе прафілактычная кампанія па "спакойных, паважлівых і ветлівых паводзінах на дарогах" пад дэвізам: "Узаемная павага на дарозе — залог бяспекі".

Спецыяліст зазначыў, што кожныя суткі на дарогах краіны ў сярэднім гінуць пяць чалавек і атрымліваюць раненні да 20 чалавек. Асноўнай прычынай дарожна-транспартных здарэнняў, паводле яго слоў, з'яўляецца кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення. У 2003 годзе па гэтай прычыне здзейснена 721 ДТЗ, пры гэтым загінула 178 чалавек.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Форум высокіх тэхналогій

Сёння, 6 красавіка, у Мінску пачала працаваць 11-я Міжнародная спецыялізаваная выстава па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях ТІВО-2004. Выстава працягнецца да 9 красавіка і пройдзе ў Нацыянальным выставачным цэнтры (Купалы, 27).

У рамках выставы запланаваны таксама шматлікія мерапрыемствы XI Беларускага форуму па інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіях, якія пройдуць з удзелам замежных спецыялістаў.

**Аляксей АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Хто вёз 100 тысяч долараў?

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі канфіскаваў 100 тысяч долараў ЗША, якія, паводле звестак спецслужбаў, перавозіліся з Расіі для фінансавання беларускай апазіцыі ў Брэсцкай вобласці. Пра гэта падчас выступлення ў парламенце заявіў старшыня КДБ Леанід Ерын. Паводле яго слоў, цяпер КДБ высвятляе, "хто фінансаваў" і "хто вёз" гэтыя грошы. "У хуткім часе гэта будзе вядома. Сума можа быць і большая", — сказаў кіраўнік Камітэта дзяржбяспекі. Пры гэтым ён нагадаў, што беларускае заканадаўства забараняе фінансаванне палітычных партый і грамадскіх арганізацый звонку.

"Тут можна толькі гаварыць аб яўным непрафесіяналізме беларускіх спецслужбаў, — пракаменціраваў БелаПАН дадзеную сітуацыю лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. — У іх увесь час або Барыс Нямцоў вязе апазіцыі 50 тысяч долараў, або 100 тысяч самі без уладальніка ідуць праз мяжу".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## У Пружаны прыйшоў менінгіт

У рэанімацыйным аддзяленні Пружанскай раённай бальніцы ад менінгакокавай інфекцыі памерла паўтарамесячнае дзіця. На працягу апошніх двух тыдняў гэта другі ў горадзе выпадак гібелі дзіцяці ад менінгіту.

Як паведамляў БелаПАН, у 20-х чыслах сакавіка ад менінгіту памёр 6-гадовы выхаванец Пружанскага дзіцячага садка № 9. У бальніцу ён паступіў у цяжкім стане з высокай тэмпературай, урачы спрабавалі яго выратаваць на працягу 16 гадзін, аднак не змаглі дапамагчы хлопчыку. Паўтарамесячнае дзіця паступіла ў бальніцу ўжо з высыпкай на скуры. З Брэста была выклікана брыгада рэаніматолагаў, якія таксама аказаліся бяссільнымі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Згарэў Дом культуры

У пасёлку Хвоенск Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці згарэў Дом культуры. Пажар адбыўся ў сем гадзін вечара. Да прыбыцця падраздзяленняў МНС агонь паспеў распаўсюдзіцца па ўсім драўляным будынку. Агонь знішчыў дах і часткова сцены Дома культуры. Мяркуецца, што прычынай узгарання стала свавольства дзяцей з агнём.

У той жа дзень, паведамляе прэс-служба МНС, пажарам быў пашкоджаны двухпавярховы будынак Дома культуры ў пасёлку Мірны Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Агонь часткова пашкодзіў сцэну, столь і дэкаратыўную абшыўку сцен.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**КАНФЛІКТНАЯ СІТУАЦЫЯ**

## Падпішы, інакш звольнім

***Педагагічны калектыў сярэдняй школы №2 Наваполацка звярнуўся да загадчыцы гарадскога аддзела адукацыі Святланы Лазарэнка з заявай. У ім настаўнікі выказваюць пратэст у сувязі з пераводам іх на кантракт.***

"У дзеючым заканадаўстве мы не знайшлі прамых указанняў аб наданні пераводу на працу па кантракце агульнага абавязковага статусу", — гаворыцца ў заяве. Як зазначаюць педагогі, сама працэдура складання і заключэння кантрактаў такая, што работніку дазваляецца толькі паставіць пад ім свой подпіс, а ў выпадку нязгоды — тут жа пазбавіцца працы.

"Усё пералічанае параджае сацыяльную напружанасць, стварае атмасферу страху, бо работнік пазбаўляецца апошніх, колькі-небудзь эфектыўных сродкаў абароны сваіх працоўных правоў і законных інтарэсаў", — гаворыцца ў заяве калектыву школы.

Настаўнікі запатрабавалі ад наймальніка прызнаць перавод на кантрактную сістэму нічым не абгрунтаваным і пакінуць у сіле ранейшы парадак працоўных адносін.

Прафсаюзны камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў хімічнай галіны прамысловасці ВА "Беларуськалій" выказаў пратэст супраць масавага пераводу работнікаў прадпрыемства на кантракт.

Як падкрэсліваецца ў прынятай з гэтай нагоды пастанове прафкама, перавод работнікаў прадпрыемства на кантракт, згодна з дзеючым на прадпрыемстве калектыўным дагаворам, павінен ажыццяўляцца па іх уласнай згодзе. "Парушэнне згаданага факта будзе расцэньвацца прафсаюзам як невыкананне ўмоў калектыўнага дагавора з наступствамі, што з гэтага вынікаюць", — папярэджваюць члены прафсаюза генеральнага дырэктара ВА "Беларуськалій" Андрэя Башуру.

У выпадку неабгрунтаванага заключэння кантракта работнікам прадпрыемства рэкамендавана звяртацца ў прафсаюзны камітэт альбо ў камісію па індывідуальных працоўных спрэчках.

Старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза ААТ "Гродна Азот" Сяргей Антусевіч накіраваў зварот у Канстытуцыйны суд, у якім просіць яго разгледзець на адпаведнасць Працоўнаму кодэксу пастановы ўрада, што рэгулююць пераход на кантракты.

У сваім звароце прафсаюзны лідэр адзначае, што пасля ўступлення ў сілу — 1 студзеня 2000 года — цяперашняга Працоўнага кодэкса прынятыя раней іншыя заканадаўчыя акты, што рэгулююць узаемаадносіны ў працоўнай сферы, страчваюць сілу. Такім чынам, лічыць С.Антусевіч, павінен быць адменены і прэзідэнцкі дэкрэт № 29 ад 26 ліпеня 1999 года, з якога пачалася кампанія заключэння кантрактаў. Паколькі ў наступных пастановах Савета міністраў, што рэгулююць працэс заключэння кантрактаў, спасылка даецца менавіта на гэты дэкрэт, С.Антусевіч прапануе Канстытуцыйнаму суду разгледзець іх законнасць.

С.Антусевіч таксама паведаміў, што падобныя звароты ў КС накіравалі яшчэ тры жыхары Гродна.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ,**
**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

**ПАЗІЦЫЯ**

## Зянон Пазьняк і яго паплечнікі па-ранейшаму за байкот

У нядзелю адбыўся чарговы Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ і таго крыла народафронтаўцаў, якое падзяляе погляды Зянона Пазьняка. Дарэчы, з заслухоўвання яго даклада і пачаўся Сойм. Вядома ж, З.Пазьняк не абмінуў праблему будучых парламенцкіх выбараў. *"У нас выразная і абгрунтаваная пазіцыя — байкот,* — сказаў ён. — *Гэта правільная і абгрунтаваная пазіцыя, рацыю якой не могуць не прызнаць нават прадажнікі. Няхай нас не трывожыць аргументацыя супраць байкоту. У канкрэтнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі, удзел у антыбеларускіх выбарах "палатак" — справа абсалютна безнадзейная, бесперспектыўная і прайграная, акрамя таго — шкодная, бо сцягне выбарцаў, умацуе рэжым і дасць падставы для рэжымнай прапаганды і агітацыі за прызнанне выбараў. Тым часам байкот сам па сабе не гарантуе перамогі, але адчыняе магчымасць, дае шанц на перамогу і ўжо самім сваім фактам пазбаўляе фальшывыя выбары прэтэнзіяў на прызнанне".*

Гэта не першая заява З.Пазьняка пра байкот маючых адбыцца восенню парламенцкіх выбараў. Іншыя партыі не падзяляюць такую пазіцыю.

У выступленні Сяргея Папкова, аднаго з бліжэйшых паплечнікаў З.Пазьняка, гучала трывога, звязаная з працягам *"інтэграцыйнай дзейнасці расійскай дзяржаўнай адміністрацыі і мясцовага антыбеларускага рэжыму"*. Да тых, хто *"выконвае разбуральныя задачы"* ў нашай дзяржаве, Папкоў аднёс кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава і старшыню КДБ Леаніда Ерына.

Не менш рэзкай была і прамова спадара Беленькага. Свой гнеў ён адрасаваў так званай псеўдаапазіцыі. Праўда, цяжка зразумець, каго канкрэтна ён адносіць да яе.

Пасля выступленняў сяброў Сойму з розных рэгіёнаў краіны быў прыняты мемарандум *"Расія — краіна дзяржаўнага тэрарызму"*, які заканчваецца словамі: *"Пакуль не будзе разгромлена агентурная сетка расійскага КДБ—ФСБ у цывілізаваных краінах і ва ўсім свеце, датуль будзе працягвацца тэрарыстычная вайна супраць дэмакратыі. І датуль, пакуль у прынцыпе не будзе зменена палітыка ў дачыненні да Расіі, гэтая сетка будзе аднаўляцца, а тэрор набываць рознаабліччныя формы".*

Як кажуць, усім перапала ад Зянона Пазьняка і яго паплечнікаў. Не прагучаў толькі адказ на пытанне, якое цікавіць многіх: калі Зянон Станіслававіч вернецца на Радзіму і ці наогул ён думае вяртацца? Няблага было б пачуць і пра тое, ці пашыраецца Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — БНФ, колькі на цяперашні час у яе шэрагах сяброў?

**Антон КАВАЛЬЧУК.**

*Православные и католики отпраздновали Вербное воскресенье.*

Фото ByMedia.net

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## На Ерына скардзяцца ў суд

*Сваякі зніклых звярнуліся ў суд Цэнтральнага раёна са скаргай на старшыню Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Леаніда Ерына.*

Скаргу падпісалі **Святлана і Вольга Завадскія, Зінаіда Ганчар, Ірына Красоўская** і прадстаўнік **Вольгі Захаранка.** Яны просяць прыцягнуць да адказнасці **Леаніда Ерына** па артыкуле аб укрывальніцтве злачыннай дзейнасці. Сваякі зніклых лічаць, што Леанід Ерын свядома не выконвае сваіх абавязкаў, якія тычацца раскрыцця злачынстваў супраць **Юрыя Захаранкі, Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара** і **Анатоля Красоўскага.**

Паводле слоў адваката **Гары Паганяйлы,** Леанід Ерын як службовая асоба ўхіляецца ад узбуджэння крымінальнай справы і выканання шэрагу працэдур па раскрыцці і пошуку злачынцаў. *"Калі гэта свядомыя дзеянні, значыць, Ерын фактычна займаецца ўтойваннем злачыннай дзейнасці"*, — гаворыць Паганяйла.

Нагадаем, што на пачатку гэтага года сваякі зніклых звярнуліся ў КДБ з просьбай распачаць расследаванне спраў аб знікненні іх родных, якімі раней займалася пракуратура. Аднак у КДБ іх просьбу праігнаравалі.

Кіраўнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ **Аляксандр Базанаў** гаворыць, што яму нічога не вядома, як адрэагаваў Ерын на скаргу сваякоў зніклых. *"Ніякіх папер з суда мы пакуль не атрымоўвалі"*, — зазначыў Базанаў.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**



**ЗЕРКАЛО**

*Как уже сообщалось, в марте 2004 года Независимый институт социально-экономических и политических исследований провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1480 человек в возрасте 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышала 0,03). Вот какие ответы получены на вопрос, нужен ли нашей стране российский рубль.*

## Нужна ли белорусам российская валюта?

Если бы общественное мнение в нашей стране влияло на принятие политических и социально-экономических решений, то наше руководство вряд ли стало бы обсуждать вопрос о замене собственных денег на валюту соседнего государства. Тем более на такую валюту, которая практически не пользуется доверием населения. Как можно видеть из данных табл. 1, несмотря на многолетние усилия белорусского Национального банка по укреплению отечественного рубля, сегодня все еще более половины респондентов традиционно доверяют "зеленым". О доверии же своим деньгам высказались чуть более четверти респондентов.

**Таблица 1.**
**Валюта, пользующаяся наибольшим доверием**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Доллары США | 50,1 |
| Белорусские рубли | 28,0 |
| Евро | 17,5 |
| Российские рубли | 0,8 |

Безусловно, на такое отношение к дензнакам соседей сильное влияние оказал "газовый" конфликт между Беларусью и Россией и особенно его освещение наиболее массовыми СМИ. В частности, по данным опроса, среди белорусов заметно больше тех, кто в этом конфликте поддержал белорусского президента и согласился с его весьма резкими заявлениями (42,6% против 27,6%). Вполне естественно, что и отношение населения к введению в Беларуси российской валюты резко изменилось: сегодня лишь треть поддерживает это мероприятие, а почти половина — нет (табл. 2). Полгода назад это соотношение было почти противоположным.

**Таблица 2.**
**Динамика распределения ответов на вопрос "Правительства Беларуси и России ведут переговоры о введении на территории Беларуси российского рубля. По Вашему мнению, следует ли вводить в Беларуси российские рубли?", %**

| Вариант ответа | сентябрь 2003 г. | март 2004 г. |
|---|---|---|
| Да | 44,2 | 33,3 |
| Нет | 34,4 | 48,2 |

Эти данные наглядно показывают, что многие начинания властей, даже недостаточно продуманные и обоснованные, вполне можно проводить в жизнь, обеспечив соответствующую пропаганду в СМИ. На мнение населения при этом можно не обращать никакого внимания. Что, собственно, власти и демонстрируют. Между прочим, большинство населения это прекрасно знает: на вопрос о том, влияет ли общественное мнение на принятие решений в нашей стране, 53,2% респондентов высказались отрицательно (положительно — только 35,8%).

**НИСЭПИ.**

**СЛЫШАЛИ?**

## Русский газ... мимо нас

### Беларусь активизирует поиски альтернативных источников энергии

Газовая война, которая разразилась в последнее время между Россией и Беларусью, получила свое естественное продолжение. Российское "национальное достояние" — концерн "Газпром" активно начал поиски путей транспортировки своего газа в Европу в обход Беларуси. А глава представительства российской компании "Итера" в Латвии" **Юрий САВИЦКИЙ** заявил о намерении вернуться к проекту строительства нового газопровода в Литве. По его словам, в мае—июле будет проведено проектирование газопровода, после чего в течение полугода он будет проложен.

Со слов Савицкого понятно, что уже к концу этого года — началу следующего российское "голубое топливо" может пойти в Прибалтику, а значит, часть его — дальше в Западную Европу в обход нашей страны, лишая тем самым государственный бюджет Беларуси весьма значительной строки доходов.

Напомним, что 19 февраля текущего года "Газпром", чтобы не допустить несанкционированного отбора газа из своих магистральных газопроводов, полностью прекратил прокачку через Беларусь. Тогда пострадали не только наши потребители российского газа, но и потребители в Польше, в Литве, Калининградской области, Германии, куда газ также поставлялся через белорусские газовые сети. В сочетании с уже имеющимся газопроводом "Рига—Паневежис", по которому во время кризиса 19 февраля прокачивалось 230 тыс. куб. м в час, новый газопровод станет дополнительным ресурсом для обеспечения Литвы газом в случае повторения газовой войны с руководством Беларуси.

*"Судя по тому,* — пишет российская "Gazeta.ru", — *что "Газпром" принимает сейчас вместе с литовской газоснабжающей компанией "Lietuvos dujos" меры по расконсервации резервного газопровода и даже начал строить газоизмерительную станцию на литовской границе, чтобы обеспечить учет поставок газа, эта война вновь повторится".*

Белорусское руководство, видимо, опасаясь очередного обострения отношений с Россией на "газовой почве", решило искать альтернативные источники еще одного топливного ресурса — нефти. На днях из казахстанской столицы Астаны вернулась с переговоров о возможностях закупки казахстанской нефти делегация белорусского концерна "Белнефтехим". Речь идет о закупке 2 миллионов тонн нефти в год.

Одновременно активизируются работы по поиску собственной нефти. Белорусские геологи в 2004 году планируют открыть 250 тысяч тонн нефти. В настоящее время у нас открыто 66 месторождений нефти, сосредоточенных на юге страны, главным образом в Гомельской области. Перспективными нефтеносными территориями считаются также Брестская и Витебская области. В 2003 году собственной нефти Беларусь добыла 1 млн. 820 тыс. тонн, что составляет пятую часть от общей потребности.

Если в будущем коэффициент трения между руководством России и Беларуси, особенно что касается темы природных ресурсов — нефти и газа, будет, как и сейчас, расти, нам придется активно искать альтернативные источники энергии. Остряки предлагают задуматься об энергии ветра. А что? Обратимся за опытом к Германии и будем строить ветряки. Этого добра, то есть ветра, у нас хватает! И дует он вне зависимости от того, дружит сегодня Александр Григорьевич с Владимиром Владимировичем или нет.

А государственный бюджет Беларуси все равно жалко. Статей доходов в нем все меньше, а расходов — все больше...

**Александр СИЛИЧ.**

**ДИПКУРЬЕР**

## Алеш Фойтек попал в «ад»

Алеш Фойтек долгое время был Временным Поверенным в делах Чехии в Беларуси. Этого дипломата хорошо знали не только политики, но и журналисты, представители различных видов искусств. Вместе с супругой они устраивали мини-выставки и небольшие экспозиции, охотно принимали у себя деятелей культуры.

Однако всему приходит конец. Вот и Алеш Фойтек в конце прошлого года, отслужив положенный ему срок, возвратился в Прагу. После этого были отдых, работа в МИДе своей страны.

И вот новое назначение — теперь Алеш Фойтек возглавляет дипломатическую миссию Чехии в Узбекистане. И надо же такому случиться, что приезд дипломата в Ташкент совпал с серией взрывов в Узбекистане. Это и дало основание его бывшим коллегам шутить: мол, Фойтек попал в "ад".

**Владимир ГЛОД.**

**О ЧЕМ ГОВОРЯТ...**

## Я и Анатолий Малофеев ходим по разным улицам

*В первый день работы 8-й сессии Палаты представителей нынешний спикер **Вадим ПОПОВ** и его предшественник на этом посту **Анатолий МАЛОФЕЕВ** провели пресс-конференцию. Резко негативное высказывание последнего в отношении четырех самолетов, патрулирующих новую границу Североатлантического блока, вынудило меня задать вопрос: чем ему мешают эти самолеты? Ведь летают они не над нашей территорией, угрожающих выпадов в отношении Беларуси F16 не делают. Наши же самолеты редко поднимаются в воздух, так как не хватает керосина.*

Анатолий Александрович с возмущением ответил, что он не видит целесообразности в расширении НАТО на Восток. Что у него в памяти Балканы, что от "этого расширения" нам всем будет "труба". Что на улице к нему обращаются люди, возмущенные этими полетами.

Видимо, я и Малофеев ходим по разным улицам. Потому как мне пока еще не довелось ни услышать, ни увидеть граждан Беларуси, выражающих недовольство полетами военных самолетов в соседних с нами странах. Не пахнет ли политиканством заявление господина-товарища Малофеева? Не желает ли он вернуть нас в старые советские времена, когда людей пугали угрозами извне? На нас никто не нападал и не нападает, а мы вот десятки тысяч молодых людей положили в Афганистане и других "горячих точках".

Вадиму Попову я задал вопрос по поводу заявления секретаря так называемого Союзного государства о проведении до конца 2004 года референдума о принятии Конституционного акта союзного государства. Ведь если это так, то парламентские выборы нынешней осенью будут совмещены с референдумом?

Вадим Александрович, не дослушав вопрос до конца, заявил, что это неправда. А на реплику, что в таком случае госсекретарь Бородин — безответственное должностное лицо, развел руками.

**Валерий ЩУКИН.**

## «Космос» стал отечественным

### Еще одна американская компания уходит от нас по причине «политических сложностей»

Американская корпорация "Metromedia" избавилась от белорусского оператора кабельного телевидения "Cosmos-TV", который на сегодняшний день обслуживает 37.000 абонентов, продав его одному из менеджеров компании. Оборот "Cosmos-TV" в 2003 году — 2,9 миллиона долларов, операционная прибыль — 0,4 млн.долларов. "Metromedia" еще два года назад объявила, что намерена распродать все неключевые активы для погашения долгов. *"Нынешняя продажа "Cosmos TV" — еще один наш шаг, усиливающий ликвидность компании. Мы получили по 38 долларов — за каждого клиента "Cosmos-TV". И то, и другое нас весьма удовлетворяет, особенно* ***учитывая политические сложности на рынке действия "Cosmos-TV",*** — заявил главный финансовый директор "Metromedia" Эрни Пайл.

Сегодня компании "Metromedia" принадлежит 19 радиостанций в Финляндии, Венгрии, Болгарии, Эстонии, Латвии и Чехии. В последнем сообщении для инвесторов корпорация сообщает о рисках, которые возникли и в связи с политическими переменами в Грузии.

**Наталья ГАК.**

ПАМЯЦЬ

# 5 год таму, 6 красавіка 1999 года, раптоўна памёр вядомы дзеяч апазіцыі Генадзь Дзмітрыевіч Карпенка. Яму было толькі 49 год

## «Карпенка прыехаў здымаць нашага Лукашэнку...»

Я пазнаёміўся з ім на III з'ездзе Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў 1997 годзе. Ён вылучаўся сярод астатніх дэлегатаў высокім ростам і значнай фігурай. Але гэта было толькі візуальнае адчуванне. Калі прыйшла чарга гаварыць, то стала зразумела: гэты чалавек — будучае нашай краіны. Настолькі моцнай была яго прамова і талент валодання аўдыторыяй. Як вынік, Карпенка стаў у АГП галоўным чалавекам — яго пачалі рыхтаваць да будучых прэзідэнцкіх выбараў. І, безумоўна, у яго быў нядрэнны шанц. Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13-га скліканeasy, былы старшыня Маладзечанскага гарвыканкама, доктар тэхнічных навук — усё гэта ўражвала.

21 лютага 1999 года ён прыязджаў у Крычаў. Прачытаў цікавую лекцыю, потым папрасіў мяне прагуляцца з ім па вуліцы, каб пагутарыць з людзьмі, паглядзець крычаўскія крамы. Яго адразу пазналі. З пад'ездаў высыпалі мясцовыя жыхары. Адносіны да Генадзя Дзмітрыевіча былі розныя. Хтосьці прамармытаў: *"Карпенка прыехаў здымаць нашага Лукашэнку"*. Канечне, былі і больш разумныя людзі, думаю, зараз іх стала нашмат больш, таму што тое, што спрагназаваў Г. Карпенка, цалкам пацвердзілася.

Потым мы наведалі краму № 33, што ў мікрагарадку "Сож". На твары прызнанага лідэра беларускай апазіцыі была разгубленасць. *"Як вы тут жывяце, гэта ж катастрофа!"* — толькі і змог вымавіць ён, гледзячы на амаль пустыя прылаўкі.

Праз некалькі дзён мы зноў сустрэліся з Генадзем Карпенкам — ў апошні раз. Непадалёк ад Мінску, у конна-спартыўным комплексе "Ратамка", прайшоў IV з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Ён быў няпростым для Карпенкі. Частка дэлегатаў вырашыла на маючых адбыцца альтэрнатыўных выбарах прэзідэнта 16 мая падтрымаць Міхаіла Чыгіра, які таксама прысутнічаў на з'ездзе. Карпенка пераконваў дэлегатаў, што праводзіць выбары зараз — гэта значыць падставіць пад лукашэнкаўскія рэпрэсіі ўсе выбарчыя камісіі, а сродкаў, каб абараніць людзей на выпадак звальнення з працы, страты здароўя, магчымых штрафаў, няма. Ён прапаноўваў берагчы сілы і рыхтавацца да восені, калі Лукашэнка, магчыма, вымушаны будзе аб'явіць выбары сам. Тады дэлегаты знайшлі кампрамісны варыянт, дазволіўшы рэгіянальным арганізацыям вырашаць, каго падтрымаць на выбарах прэзідэнта і наогул браць у іх удзел або не.

Вярталіся з "Ратамкі" ў Мінск на электрычцы. Лёс падарыў мне яшчэ паўгадзіны побач з Г. Карпенкам і яго дарослым сынам — мы ехалі ў тамбуры, стаялі шчыльна адзін да аднаго. Гаварылі аб будучым Беларусі, успаміналі нядаўнюю сустрэчу з крычаўлянамі. Я паабяцаў яму падтрымку на выбарах, калі ён вырашыць у іх удзельнічаць. На адным з прыпынкаў Генадзь Карпенка разам з сынам, развітаўшыся, выйшлі. Праз хвіліну дзверы зачыніліся, але праз шкло яшчэ можна было пабачыць, як дзве вялізныя фігуры сапраўдных мужчын у атачэнні натоўпу людзей павольна рухаюцца ўздоўж чыгуначных рэек...

**P.S.** *Дадам, што ніколі не паверу ў выпадковасць яго смерці. Ён быў чалавекам моцнага здароўя, і гэта было бачна па ўсім. Ён мог бы стаць нашым наступным прэзідэнтам і зрабіць нашае жыццё больш камфортным і ўтульным. Але... Незадоўга да смерці Карпенка сустракаўся з былой галоўнай банкіркай Віннікавай, якая паведаміла яму шмат фактаў аб карупцыі ў беларускім кіраўніцтве. Зараз няма Карпенкі, збегла Віннікава, скрадзены вядомыя палітыкі — генерал Ю. Захаранка, В. Ганчар, бізнесовец А. Красоўскі, журналіст З.Завадскі...*

**Сяргей НЯРОЎНЫ.**

*Крычаў.*

### Строки биографии

*Геннадий Дмитриевич Карпенко родился 17 сентября 1949 года в Минске. Окончил Белорусский политехнический институт. Работал в Институте ядерной энергетики Академии наук Беларуси. С 1983 года – заведующий отделом НПО порошковой металлургии; с 1987 года – директор завода порошковой металлургии в г.Молодечно. Под его руководством завод из отстающего предприятия стал одним из лучших в стране.*

*В 1990 году избран депутатом Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва, а затем председателем парламентской комиссии по науке и научно-техническому прогрессу, членом Президиума Верховного Совета.*

*С 1991 по 1994 год – председатель Молодечненского горисполкома. Город был известен целым рядом экономических реформ, культурными и спортивными достижениями. В Молодечно реализован целый ряд программ по улучшению уровня жизни социально не защищенных слоев населения: ветеранов, инвалидов, пенсионеров и молодежи.*

*В 1995 году вторично избран депутатом Верховного Совета Беларуси, а затем заместителем председателя Верховного Совета.*

*Геннадий Дмитриевич Карпенко – доктор технических наук, член-корреспондент Национальной академии наук, академик трех международных и отраслевых академий, лауреат Государственной премии в области науки и техники, заслуженный деятель науки.*

*Г.Д.Карпенко – ученый-практик. Его докторская диссертация признана Высшей аттестационной комиссией СССР лучшей докторской диссертацией года, успешно сочетающей научную и практическую значимость, широкое внедрение научных результатов в промышленность. Он автор 50 изобретений, награжден 5 медалями ВДНХ СССР. Его разработки внедрены в 15 странах мира.*

## Из интервью Г.Д.Карпенко, опубликованного в «Народной воле» 15 июля 1998 года

**— Вы из простой семьи, у Вас не было "волосатой" руки, которая бы тащила Вас по жизни. Но к 40 годам Вы добились того, чего многие не могут добиться и к концу жизни. Что помогло вам?**

— Прежде всего люди, с которыми довелось вместе работать. Многие из них были моими учителями. У них я учился одержимости в работе, упрямству в достижении цели. Не всегда и не все их понимали, но они никогда не сдавались. Пользуясь случаем, назову их фамилии. Это В.П.Гольцев, А.Н.Красин, В.Б.Нестеренко, О.В.Роман, В.А.Белый, М.В.Высоцкий, П.А.Витязь. Благодаря им моя неуемная, я бы сказал — порой "уличная", энергия шлифовалась, направлялась на конкретные дела. И, не скрою, было еще и везение...

**— Вы производите впечатление человека спокойного, выдержанного, даже несколько флегматичного. И вдруг разразившийся скандал на официальном приеме с прежним редактором "Народной газеты". Более того, Вы даже пустили в ход руки... Не сожалеете о случившемся?**

— Я вообще не признаю разборок с помощью рук. Кое-кто считает это чисто мужской особенностью, но только не я. Тем более, когда дело касается политики. Но ответьте мне, как можно защитить свою честь и достоинство перед низким человеком, который, пользуясь своей должностью, обливает тебя грязью, измазывает дерьмом перед всей республикой. Что случилось? По поводу статьи в "Народной газете" я подал исковое заявление в суд. Автор извинился передо мной, а поскольку он факты не проверял, то передоверился лицам из президентского окружения. Журналист принес в суд письменное заявление, назвал истинных инициаторов сфабрикованной фальшивки. Естественно, я обратился к главному редактору некогда настоящей "Народной газеты", а ныне газетенки, от которой отреклась уже огромная часть читателей, с просьбой напечатать текст письма автора статьи, из-за которой возникли судебные споры. Все логично, не так ли? Раз извинился автор фальшивки, должна была извиниться и сама газета, напечатавшая ее. Однако никакого извинения газета, которую язык опять же не поворачивается назвать народной, не напечатала... Отсюда истоки произошедшего. В иные времена я, конечно бы, вызвал редактора на дуэль, а сегодня, уж извините, произошло то, что так не похоже на меня.

**— А что с судебным разбирательством по так называемому "хлопковому делу", когда Лукашенко обвинил Вас в срыве поставок хлопка в республику?**

— Я подал заявление в суд за ложь и клевету в свой адрес... И что же? Суд три года не рассматривает это дело. Уверен, что оно ляжет под сукно. Такая уж у нас демократия! Зато сутками будет дежурить возле подъезда милиция, чтобы в мгновение ока отвезти в суд за участие в митинги или демонстрации, она же будет безнаказанно избивать дубинками людей за их гражданское право заявить протест против насилия и произвола.

**— Тем более что сейчас, когда палата лукашенковского парламента в первом чтении приняла весьма опасный для граждан документик о защите его чести и достоинства...**

— В любом государстве должны защищаться честь и достоинство первого лица, но не более, чем честь и достоинство любого гражданина страны. Но ведь у нас сегодня ни один человек, даже пацаны, пишущие на стенах антирежимные лозунги, не оскорбляют с такой силой и в такой степени президента, как он сам оскорбляет себя. И прежде всего перехлестывающей все границы ложью, хамством. Взять хотя бы последнее оскорбление перед всей мировой общественностью в Швейцарии или комедию с выселением послов.

**— У Вас сегодня нелегкая жизнь. Редко кто из обывателей Вам позавидует. Я имею в виду постоянное наблюдение спецслужб, прослушивание телефонов, специально распускаемые слухи о многочисленных коттеджах, гостиницах, магазинах, якобы принадлежащих Вам и в Минске, и в Москве, издевательство во время болезни... Или еще многое другое. Не рождает ли все это у Вас чувство мести?**

— Честное слово, никогда в жизни подобного чувства у меня не возникало. Почти ко всему привык относиться спокойно, сознавая, что существующая ныне власть иначе поступать просто не может. Такие уж у нее моральные принципы. Но больше всего потрясло меня бесчеловечное отношение к больному, в данном случае ко мне лично, главврача лечкомиссии Киселя. Этот человек, дававший клятву Гиппократа, по приказу "сверху" выбрасывал меня из больницы. Согласитесь, такой человек не имеет права называться врачом.

Что касается людей в погонах — КГБ и милиции, получающих команды выполнять антиконституционные, антинародные приказы, могу сказать одно. У многих из них растет внутренний протест, они начинают понимать, кому служат, осознают, что за содеянное придется отвечать. Пройдет время, и это понимание может перерасти в нечто иное.

**— На Вашем рабочем столе постоянно увеличивается в объеме рукопись. Это новая научная работа?**

— Нет. Я заканчиваю работу над рукописью книги. Ее рабочее название "Крах страны "Лукашении". Перед читателем возникнут многочисленные хроники сегодняшней жизни, неизвестные эпизоды из жизни нынешних и вчерашних политиков... "Лукашения" — это не Беларусь. Это затхлый мирок, созданный человеком, стечением обстоятельств ставшим во главе целой страны. Мирок лживый и во сто крат более циничный, чем приснопамятные времена правления коммунистов. К сожалению, мы все, весь народ Беларуси стали участниками событий в "лукашении", возмутивших весь цивилизованный мир.

**— И последний вопрос. Что конкретно Вы сможете предложить людям, когда станете официальным кандидатом в президенты?**

— Мы не будем голословно утверждать, что запустим заводы. Мы предложим конкретно, как это сделать. Мы сможем гарантировать в течение второго года рост средней заработной платы до 200 долларов, а минимальной — до 100. Мы не будем призывать разрушить аграрный сектор страны, так как считаем его одним из главных направлений в республике. Мы дадим свободу и возможность всем тем, кто желает трудиться и проявить свои способности во всех сферах народного хозяйства. Основой нашего общества должен стать средний класс — люди труда, интеллигенция. Мы не бросим в беде ветеранов, инвалидов. Нуждающиеся получат дешевые лекарства, современное медицинское обслуживание. Мы будем строить свое государство, уважая наших соседей, все мировое сообщество. Мы не станем давать указы избивать дубинками женщин и детей, бросать людей в тюрьмы по политическим убеждениям. Порядок Гитлера не будет в стране образцом для подражания. Права человека, соблюдение законов будут главными ценностями нашего общества. Мы не будем заявлять, что мы пришли на 12 лет. Мы будем делать все, чтобы жизнь людей кардинально улучшилась в самое короткое время.

БОЛЬ

## У жены Карпенко нет заключения о смерти мужа

***Уже два года семья Геннадия Карпенко живет в Германии.***

***Решение покинуть Беларусь Людмила Филипповна и ее дети приняли практически сразу после президентских выборов в Беларуси 2001 года, в январе 2002-го. Спустя полгода они получили статус политбеженцев.***

***Людмила Филипповна говорит, что самое тяжелое для нее — это то, что 6 апреля, в день очередной годовщины смерти Геннадия Карпенко, она не сможет побывать на могиле мужа.***

— В самые тяжелые моменты жизни я могла прийти на кладбище, посидеть на могиле Геннадия, поговорить с ним. Мне казалось, что он меня слышит... — голос в телефонной трубке меняется, Людмила Филипповна замолкает, потом извиняется и продолжает:

— 6 апреля, как всегда, соберемся всей семьей, помянем любимого мужа и отца, внимательного дедушку. 5 лет без Геннадия длятся для меня очень долго по сравнению с 30 годами, прожитыми вместе. Годами трудными, но счастливыми.

**— Людмила Филипповна, наверное, за это время Вы не единожды мысленно возвращались к событиям тех страшных дней. Сохранилась ли у Вас убежденность в неслучайности смерти Геннадия Дмитриевича?**

— С первого дня смерти мужа у меня не было сомнений, что это убийство. Но если первое время об этом больше говорили чувства — страшная боль потери любимого человека не давала возможности трезво оценивать события, то сейчас — это факты...

Не один раз за эти пять лет в мыслях прокручивалась вся наша совместная жизнь, но больше всего я думала о событиях последних дней мужа и о людях, с которыми он общался. Еще будучи в Беларуси, я с многими из них встречалась, записывала наши разговоры. Потом сопоставляла всю информацию. Сейчас я всегда с жадностью просматриваю новости в Интернете, прочла книги Шеремета, Климова, Леонова. С особым вниманием те страницы, где написано о Карпенко. И когда я сопоставляю все эти данные, то уверенность в неслучайности смерти Карпенко еще больше укрепляется.

1999 год был самым обильным на политические расправы. Карпенко был тем, кто имел реальный шанс победить на президентских выборах в 2001 году. Избирательную кампанию Геннадий Дмитриевич начал уже в 1998 году, с ним в команде работали образованные, преданные демократическим идеям и Беларуси люди. За Геннадием Дмитриевичем шел народ, верил ему...

У меня часто спрашивают, а что было бы, если бы Карпенко остался жив. Во-первых, в стране начались бы изменения в лучшую сторону. Я уверена, что не было бы и громких исчезновений, которые потрясли страну сразу после странной смерти Геннадия. Юрий Захаренко был опасен, его поддерживали военные, но он был в команде Карпенко и не собирался баллотироваться на пост президента. Виктор Гончар стал серьезным оппонентом власти только после смерти Карпенко.

Возможно, многие читатели "Народной воли" и не знают, что кампания по устранению Карпенко началась еще в 1994 году со знаменитого "хлопкового дела". В 1996 году — стреляли по машине, на которой ездил Карпенко. (Я думаю, что тогда, в 1996 году, и начали опробовать схему так называемого реального устранения. Об этой схеме упоминает в своей книге Павел Шеремет.) Тогда по машине моего мужа стреляли из "Ауди", которая потом часто упоминалась в делах об исчезновении других известных политиков.

В 1997 году мужу пытались подменить лекарства. Об этом часто упоминала Тамара Винникова. В своем интервью она говорила, что знала человека, который это сделал. Потом он как-то странно скоропостижно умер.

В 1998 году, когда Геннадий был избран единым кандидатом на президентские выборы от ОГП, а в 1999-м — на Конгрессе демократических сил — от всей оппозиции, до нас дошли слухи из криминальных структур, что заказано убийство Карпенко.

Не все понятно и с медицинской точки зрения. После смерти мужа я обращалась за консультацией к известным в Беларуси врачам-кардиологам. Они объяснили, что при кровоизлиянии в мозг происходит разрыв одного, двух сосудов. А у Карпенко, как сказал сразу после его смерти главный нейрохирург, были разорваны как большие, так и мелкие сосуды.

Но, несмотря на это, многие "почему" остались без ответа.

Почему сразу после обследования Геннадия нейрохирург спросил у меня: "Были ли удары по голове?".

Почему меня не пропускали в палату?

Почему мне не выдали результаты вскрытия, хотя я дважды письменно обращалась в патологоанатомическое бюро?

Почему Карпенко был доставлен не в Центр нейрохирургии, а в Больницу скорой помощи, где не было соответствующего оборудования? Почему была отвергнута любая медицинская помощь, которую предложил бывший руководитель ОБСЕ в Минске Ханс-Георг Вик?

Почему 31 марта, когда я пришла с работы, а Геннадий находился уже в клинике, наша квартира оказалась открытой?

Почему произошла эта странная встреча Геннадия Карпенко с Тамарой Винниковой, когда она находилась под домашним арестом и навестить ее можно было только при наличии специального разрешения? Почему она угощала Карпенко из номерных рюмок? Исчезает Винникова в день похорон Карпенко — почему ее ищут в нашей квартире?

Почему журналист Людмила Осинская, официально не работая ни в одной газете, решила взять интервью у Геннадия именно в этот страшный день, а потом не хотела со мной встречаться на протяжении полутора лет? Почему многие ее показания расходятся с показаниями других свидетелей, с которыми я встречалась и разговаривала? Почему этих свидетелей запугивают и привлекают к уголовной ответственности? А кого и вовсе в 27 лет отправляют на тот свет с таким же диагнозом, как у Карпенко?

*Людмила Филипповна с дочерью Татьяной (фото из семейного архива).*

**— Как-то Вы с грустью заметили, что созданная при Парламентской Ассамблее Совета Европы комиссия по расследованию громких дел в Беларуси не рассматривает дело Геннадия Карпенко. Удалось ли что-либо изменить в этой ситуации?**

— До моего вынужденного отъезда в Германию в Беларуси был создан фонд имени Геннадия Карпенко, который объединил всех женщин — жертв политических репрессий. Мы ездили по регионам Беларуси, провели более 50 встреч, встречались с политиками, представителями международных организаций. И тогда при ПАСЕ была создана комиссия по расследованию громких дел в Беларуси. Но как раз в тот момент, когда комиссия должна была рассматривать вопрос об убийствах в Беларуси, я была вынуждена уехать из страны.

Я не могу сказать, что комиссия не рассматривает дело Карпенко. Я прекрасно понимаю, что дело Карпенко намного сложнее, чем дела исчезнувших политиков. По факту смерти Геннадия не было возбуждено уголовное дело...

В прошлом году мне удалось присутствовать на заседании комиссии ПАСЕ. Мне было отведено на выступление 5 минут, и я пыталась убедить членов комиссии в неслучайности смерти моего мужа. По своей инициативе я встречалась с председателем комиссии Сергеем Ковалевым. У меня назначена встреча с Христосом Пургуридесом.

**— Людмила Филипповна, как складывается Ваша жизнь на чужбине? Дети адаптировались к немецкому образу жизни?**

— Дети учатся в университетах Германии, они подтверждают свои белорусские дипломы. Татьяна занимается в экономическом вузе, Дмитрий — в техническом. Зять и невестка тоже учатся. Живут они на стипендию, которую получают.

Я учу язык, хожу на курсы. Конечно, начинать учить язык в зрелом возрасте сложно. Я уже могу общаться на бытовом уровне, но мне еще далеко до того уровня, который позволял бы мне свободно изъясняться.

**— На работу пробовали устроиться?**

— Вопрос трудоустройства в Германии достаточно сложный. И не только потому, что мой немецкий не на должном уровне. Имеет значение и мой возраст.

Но у меня и так много дел. Семья большая, помогаю детям воспитывать внуков. И, безусловно, по мере возможности, занимаюсь политикой.

**— А на что живете?**

— Получаю пособие. Если смотреть глазами обывателя, то в Германии, конечно, жить хорошо. Мне хватает денег на питание. Здесь размеренная, спокойная жизнь. Но духовной пищи не хватает. Сердце и душа остались в Беларуси.

**— Когда Вы только уехали из страны, говорили, что многое пришлось продать: гараж, машину, дачу. В Минске осталась только квартира — чтобы было куда возвращаться. Она и сегодня не продана?**

— Конечно. И я, и мои дети ждем того дня, когда можно будет вернуться домой, в свободную Беларусь!..

Я хотела бы сказать спасибо за память о моем муже. Сегодня, к сожалению, мне нечасто звонят друзья, знакомые. Если кто-то из читателей "Народной воли" решит мне написать, позвонить, я буду очень рада.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПУЛЬС

### Беларуская нафта

Запасаў беларускай нафты хопіць прыкладна на 30 гадоў пры цяперашнім узроўні яе здабычы. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў галоўны геолаг па нафце і газе РУП "Белгеалогія" Яраслаў Грыбік.

Паводле яго слоў, цяпер Беларусь забяспечвае сябе нафтай прыкладна на пятую частку ад таго, што спажываецца за год. "У 2003 годзе мы здабылі 1 млн. 820 тыс. тон, спажылі каля 10—12 млн. тон", — сказаў Я.Грыбік.

На сённяшні дзень у Беларусі адкрыта 66 радовішчаў нафты, сканцэнтраваных на поўдні краіны, у рэгіёне Прыпяцкага прагібу.

Апрача гэтага, перспектыўнымі нафтаноснымі раёнамі вызначаны Аршанская і Брэсцкая ўпадзіны.

### Шукаюць алмазы

Алмазы ў Беларусі ўсё ж будуць знойдзены. Такую думку на прэс-канферэнцыі ў Мінску выказалі генеральны дырэктар РУП "Белгеалогія" Уладзімір Карпук і галоўны геолаг па цвёрдых карысных выкапнях "Белгеалогіі" Пётр Хоміч.

Паводле слоў У.Карпука, геолагаразведачныя работы ў гэтым кірунку працягваюцца, а "папярэднія вынікі дазваляюць гаварыць аб тым, што ёсць надзея".

"Калі звярнуцца да міжнароднай практыкі, то верагоднасць адкрыцця алмазаў адзін да ста, гэта значыць на сто кімберлітавых трубак толькі адна бывае з алмазамі. Але адзін поспех пакрывае сотню няўдалых геалагічных пошукаў", — зазначыў У.Карпук.

"Перспектывы ёсць, значыць, работы трэба працягваць. Пакуль апошняя кропка не будзе пастаўлена на тэрыторыі краіны, надзея не будзе страчана. Мы спадзяемся, што ў Беларусі павінна быць хаця б адна трубка прамысловага значэння", — сказаў П.Хоміч.

### У нас ёсць не толькі буры вугаль...

У Беларусі падрыхтаваны да прамысловага асваення два радовішчы бурага вугалю з агульным запасам 99 млн. тон. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў галоўны геолаг па цвёрдых карысных выкапнях РУП "Белгеалогія" Пётр Хоміч.

Паводле яго слоў, на базе абодвух радовішчаў — Жыткавіцкага і Брынеўскага (Гомельская вобласць) — могуць быць пабудаваны кар'еры для здабычы адкрытым спосабам па 2 млн. тон вугалю ў год на кожным. Аднак, зазначыў П.Хоміч, Жыткавіцкае радовішча "размешчана ў межах тэрыторыі, забруджанай радыяцыяй, таму Нацыянальная акадэмія навук Беларусі рэкамендуе пакуль устрымацца ад яго распрацоўкі".

Брынеўскае радовішча з запасам 30 млн. тон вугалю падрыхтавана да асваення яшчэ летась, але "кошт здабычы высокі, гэта значыць патрэбны дадатковыя крыніцы інвеставання", сказаў геолаг. Ён паведаміў, што цяпер "Белгеалогія" вядзе пошукавыя работы на поўначы Беларусі, "ёсць перспектывы выяўлення невялікіх радовішчаў па 20—30 млн. тон".

Паводле інфармацыі П.Хоміча, у Беларусі маюцца багатыя па колькасці залежы гаручых сланцаў — каля 8 млрд. тон, размешчаныя на поўдні краіны.

Геолагі лічаць, што ў Беларусі ёсць таксама два перспектыўныя радовішчы жалезнай руды — Аколаўскае (Стаўбцоўскі раён, Мінская вобласць) і Навасёлкаўскае (Карэлічы, Гродзенская вобласць). П.Хоміч зазначыў, што ўтрыманне жалеза ў беларускай рудзе "значна ніжэйшае, чым ва Украіне і Расіі". "Але нашы руды добра абагачаюцца, і гэтая тэхналогія распрацавана на Беларускім металургічным заводзе. Каб прыступіць да гэтага, неабходна зрабіць комплексную разведку", — сказаў геолаг.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

### Выпальваў сухую траву...

Трагедыя адбылася ў вёсцы Рудня Гарбавіцкая Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Раніцай, калі мужчына выпальваў смецце і сухую траву, моцным парывам ветру полымя перакінулася на бліжэйшую пабудову — хлеў. Гаспадар спрабаваў затушыць агонь, аднак той праз некалькі хвілін дабраўся і да жылога дома. Спрабуючы ліквідаваць пажар ужо ў доме, а магчыма, і выратаваць маёмасць, пенсіянер наглытаўся чаднага газу. Ён здолеў выбрацца на ганак, але з-за атручвання прадуктамі гарэння страціў прытомнасць, атрымаў моцныя апёкі і памёр.

Ратавальнікаў выклікаў сусед пенсіянера. Праз 8 хвілін да месца пажару прыбылі 2 пажарныя падраздзяленні, аднак выратаваць гаспадара дома было ўжо немагчыма.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

### Для садаводаў і агароднікаў

Сёння адкрываецца 4-я Міжнародная выстава-кірмаш "Кветкі. Насенне. Сад. Агарод-2004". Яна пройдзе да 10 красавіка ў павільёне выставачнага комплекса па праспекце Машэрава, 14.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

Народная Воля
6 КРАСАВІКА 2004 г.

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Губернатором Алтая стал Михаил Евдокимов



Артисту Михаилу Евдокимову удалось одержать победу во втором туре выборов губернатора Алтайского края. По предварительным результатам, полученным после обработки всех бюллетеней, известный юморист набрал 49,79 процента голосов избирателей. Его соперник, действующий губернатор Александр Суриков, получил 46,04 процента голосов. Против обоих кандидатов проголосовали 3,34 процента пришедших на выборы. Явка составила 57 процентов избирателей.

## Билл Гейтс лишился титула главного богача планеты из-за слабости доллара

Основатель шведской мебельной компании IKEA Ингвар Кампрад признан самым богатым человеком в мире. Согласно данным шведского делового еженедельника Veckans Affarer, состояние 77-летнего шведа оценивается в 400 миллиардов крон, или 53 миллиарда долларов. Таким образом, Ингвар Кампрад обогнал по доходам основателя Microsoft Билла Гейтса. Согласно последнему списку самых богатых людей американского журнала Forbes, состояние Гейтса достигло 47 миллиардов долларов.

В настоящее время Ингвар Кампрад проживает в Швейцарии и не принимает участия в непосредственном управлении IKEA, однако он сохранил за собой владение компанией. Кампрад известен своими скромными привычками. Например, в самолетах он летает только эконом-классом. Однако не бережливость сделала шведа самым богатым человеком в мире, отмечает агентство. Главной причиной “поражения” Гейтса называется падение курса доллара относительно других мировых валют.

## Центральный вокзал Амстердама эвакуировали из-за сообщения о заложенной бомбе

Полиция Нидерландов на час закрыла центральный вокзал в Амстердаме и эвакуировала всех его посетителей после того, как в правоохранительные органы поступило сообщение о заложенной в здании бомбе, сообщило агентство “Ассошиэйтед Пресс” со ссылкой на местные СМИ. Власти остановили железнодорожное сообщение с тремя городами на юге страны. Также была остановлена работа трамваев и метро, прекращено курсирование паромов. Власти пока воздерживаются от каких-либо комментариев по поводу случившегося, однако известно, что отряд саперов действительно обнаружил на станции метро, находящейся под вокзалом, подозрительный сверток, о содержании которого пока ничего не известно.

## В Сербии упал в реку автобус со школьниками

В Сербии упал в реку автобус с болгарскими школьниками, в результате чего погиб один ребенок и еще 10 считаются пропавшими без вести. Об этом сообщает местное информационное агентство “Бета”. Инцидент произошел в юго-западной части страны. Всего в автобусе находились 48 человек. 22 из них получили легкие ранения и были госпитализированы в близлежащую больницу.

## Ирак: кровавое воскресенье

Семеро солдат США погибли в результате столкновения между войсками коалиции и иракцами в Багдаде. Еще по меньшей мере 24 американских солдата получили ранения во время стычек, происшедших в багдадском районе Садр-сити.

В Неджефе около 20 человек были убиты и свыше 100 получили ранения в результате разгона демонстрации шиитов. Среди погибших — один солдат армии Сальвадора, направившего в Ирак свой контингент, и двое иракских военных.

Войска международной коалиции открыли огонь по участникам акции протеста, проходившей в этом священном для мусульман-шиитов городе.



### Кто открыл огонь?

По словам очевидцев, испанские военные открыли огонь после того, как тысячи сторонников радикального шиитского священнослужителя Моктады Садра приблизились к их базе и начали бросать в них камнями.

Однако один из участников демонстрации Хусейн Али заявил, что первые выстрелы были из толпы.

“Некоторые вооруженные демонстранты начали стрелять по испанским солдатам, которые открыли ответный огонь. Началась бойня”, — сказал он.

Среди участников акции протеста были вооруженные члены верного Садру ополчения, запрещенного коалиционной администрацией.

Между тем глава гражданской администрации Ирака Пол Бремер заявил, что протестующие “переступили черту и обратились к насилию”.

Он выступил с этим заявлением, говоря о создании Министерства обороны Ирака и спецслужбы для защиты страны от “террористов и инсургентов”.

Последователей Садра осудил и Массуд Барзани, нынешний глава Правящего совета Ирака. Лидер иракских шиитов аятолла Али Систани в свою очередь призвал народ к спокойствию.

### Насилие по всей стране

В последние дни в нескольких городах Ирака, в частности, в Багдаде, сторонники Садра провели серию демонстраций, требуя прекращения оккупации страны коалицией, возглавляемой Соединенными Штатами.

Недавно был арестован один из ближайших сторонников Садра, а ранее была закрыта газета, выступающая в его поддержку. Судя по всему, этот арест и стал причиной выступлений.

Сторонники Садра организовали демонстрацию протеста и в Багдаде. Как передает агентство “Ассошиэйтед пресс”, когда люди собрались на площади Фирдаус, началась стрельба. Пока неясно, кто первым открыл огонь. Американские войска сообщают о гибели семи солдат.

Как передает агентство “Франс пресс”, в ходе столкновения британских войск со сторонниками Моктады Садра в городе Амара на северо-востоке Ирака один человек погиб и еще пять получили ранения.

Одновременно из города Киркук на севере Ирака пришли сообщения о взрыве автомобиля, начиненного взрывчаткой. Как передает “Франс-пресс”, в это время город прочесывали американские содаты.

По словам полковника иракской полиции, ранения получили три человека. Он заявил, что целью взрыва был американский патруль. Как отмечает “Рейтер”, в этом городе также прошли массовые выступления в поддержку Моктады Садра.

Между тем, по сообщениям американских военных, два морских пехотинца были убиты к западу от Багдада. Военные погибли в двух не связанных между собой инцидентах в провинции Анбар, где в последнее время вылазки против коалиционных войск происходят довольно часто.

СПОВЕДЗЬ

# Цёплая восень

У самым пачатку верасня споўнілася пяць гадоў, як я жыў у доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых. За такі час прывык і да рэжыму, і да насельнікаў гэтай страшнай установы. Страшнай у тым сэнсе, што тут знайшлі свой прытулак псіхічна хворыя людзі — няшчасныя і забытыя. Сюды дзверы шырокія, а назад практычна выйсця не было. Мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя, нават падлеткі ў нейкім паўсонным стане хадзілі па двары, сядзелі на лаўках. Хто спяваў, хто плакаў... Староннія людзі і нават мясцовыя жыхары, якія кожны дзень праходзілі побач з домам-інтэрнатам, лічылі за лепшае не звяртаць увагі на гэтых няшчасных. Можа, таму, што ў любы момант кожны сам можа аказацца ў гэтым доме. І баяліся, і асцерагаліся, і адварочваліся... Гэта называецца страусіная палітыка: схаваў галаву ў пясок і зрабіў выгляд, што ўсё наўкола напоўнена хараством і спакоем. Нездарма ў нас рэдка пішуць пра падобныя ўстановы, а да нядаўняга часу наогул маўчалі.

Я, калі быў малады і здаровы, як і большасць людзей, што не вылучаюцца асаблівым розумам і чуласцю, называў псіхічна хворых людзей дурнямі, пагарджаў імі і высмейваў. Памятаю, паблізу школы-інтэрната, дзе я выхоўваўся, бо ў раннім дзяцінстве страціў бацькоў, у адным з прыватных дамоў жыла жанчына з сынам-інвалідам. Ён, ужо дарослы хлопец, у цёплую пару года цэлымі днямі сядзеў ля плоту на лаўцы і чарціў пруцікам на пяску нейкія рыскі. Дзеці падбягалі, сціралі іх, насміхаліся над няшчасным чалавекам. Я не быў выключэннем сярод такіх ёлупняў, і, можа, за гэта Бог пакараў мяне страшнай хваробай. Настаў такі час, і я раздзяліў лёс таго няшчаснага хлопца.

Скончыў школу, вучылішча і працаваў токарам на заводзе. Жыў у інтэрнаце. І вось аднойчы мой сябра з гонарам паведаміў, што на дзень нараджэння бацькі падарылі яму “Жыгулі”. Машына, праўда, была не новая, але ўсё роўна для маладога хлопца вялікая радасць. Ён яшчэ і правоў не меў, і навыкаў ваджэння, аднак вечарам мы паехалі катацца. Узялі з сабой дзвюх дзяўчат. Нядаўна прайшоў дождж, асфальт быў слізкі, і мой сябра, як пішуць у міліцэйскіх пратаколах, не справіўся з кіраваннем, машына з’ехала ў прыдарожную канаву, стукнулася ў дрэва і перакулілася. Вадзіцель і яго сяброўка, што сядзела побач, загінулі на месцы. Другая дзяўчына паламала абедзве нагі, а я моцна стукнуўся галавой. Было такое ўражанне, што ўсунуў галаву ў вогнішча. Перад вачыма скакалі барвовыя агні, а потым усё знікла... Я страціў прытомнасць.

Аперацыя была складанай і доўгай. Толькі пра гэта я даведаўся шмат гадоў пазней. А тады... З цяжкасцю гаварыў, мала што разумеў. І сам бы пра гэта нічога не памятаў, каб не расказаў добры пажылы доктар, якога пазней спецыяльна адшукаў у абласной бальніцы.

Ніхто тады не думаў, што я буду жыць, а ўжо наконт таго, што не буду псіхічна здаровым, сумненняў не ўзнікала нават у майго добрага доктара. Прыгавор быў суровым і канчатковым: паколькі ў мяне не было бацькоў, то ўсё сваё жыццё я павінен быў правесці ў доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых.

Спачатку былая панская сядзіба, дзе размяшчалася наша ўстанова, не рабіла на мяне ніякага ўражання. Гэта потым, з гадамі, я пачаў заўважаць і векавыя ліпы наўкола, і дзівосныя свечкі каштанаў у вясновую пару. Са спагадай і болем пазіраў на няшчасных людзей, што разам са мной марудна цягнулі шэрую і бясконцую нітку будняў.

Прайшло пяць доўгіх гадоў, калі я зразумеў, што выздаравеў зусім. Мне ўжо не балела галава, рукі сумавалі па рабоце, я разважаў і дзейнічаў, як усякі здаровы чалавек. Але кляймо псіхічна хворага было прылеплена назаўсёды, і я змірыўся з лёсам, з тым, што буду тут да таго самага часу, калі мяне адвязуць на могілкі і паставяць на магіле сціплы драўляны крыж.

Так і жыў да той памятнай цёплай восені. Разам з такімі ж няшчаснымі, як і сам, пад навесам збіваў драўляныя скрыні для яблыкаў. Надвячоркам работа была закончана. Я сабраў у кладоўку інструменты і, выйшаўшы з памяшкання, прысеў на лаўку ля сцяны. Хараша кружылася ў паветры жоўтае лісце старых ліп. Цёплы ветрык варушыў тое, што ляжала на зямлі, і яно аб нечым шаптала ціха і таямніча.

Па алеі ішоў дырэктар інтэрната. Ён быў у нас нядаўна, але паспеў зрабіць многае: увачавідкі былі абкладзены белай цэглай гаспадарчыя пабудовы, пачата ўзвядзенне новага жылога корпуса з усімі выгодамі. Дырэктар прыпыніўся каля мяне, прывітаўся за руку, а потым сеў побач.

— Паслухай, я ніяк не магу зразумець, чаму ты тут знаходзішся? — спытаў без усялякага ўступлення. — Ты ж псіхічна здаровы чалавек. Не тут тваё месца, хлопча, не тут... Я ўжо з доктарам размаўляў. Ён таксама пацвярджае, што ты здаровы.

— Ну дык і што з таго? — з сумам і горыччу прамовіў я. — Што са здаровага чалавека робяць псіхічна хворага, пра гэта я чуў, а вось каб наадварот... Такое, мабыць, немагчыма. Тым больш што мне няма куды падацца. Бацькі загінулі ўжо даўно, блізкай радні не маю. Праўда, у горадзе некалі жыла цётка, як кажуць, дзесятая вада на кісялі. Непатрэбен я ёй. Тым больш пасля таго, што са мной было.

— А ты яе адрас ведаеш?

— Цяпер, можа, і памерла, а некалі яе адрас быў такі... *(я назваў і вуліцу, і нумар дома).*

— Не бядуй, я зраблю ўсё дзеля таго, каб цябе адсюль вызваліць. Ты нармальны чалавек і павінен жыць нармальным жыццём. Ажэнішся, будзеш мець сям’ю.

Праз некаторы час дырэктар і доктар сабралі ўсе неабходныя дакументы і павезлі мяне на камісію. Але там іх не падтрымалі. Вярталіся назад моўчкі, а я, заціснуўшыся ў куток машыны, плакаў, як хлапчук.

Праз тры месяцы дырэктар зноў павёз мяне на камісію. Ведаю, што за гэты час ён пабываў у Мінску, у высокакваліфікаваных спецыялістаў-псіхіятраў. З’ездзіў і ў горад да маёй цёткі. Аказваецца, яна была жывая і здаровая, адзінока каратала старасць. Цётка з радасцю даведалася, што я папраўіўся, і па просьбе дырэктара згадзілася ўзяць мяне да сябе, прапісаць у сваёй кватэры.

На гэты раз мы вярталіся дадому самымі шчаслівымі людзьмі на свеце. Я быў бязмерна рады, што буду жыць, як усе здаровыя людзі, і ў мяне будзе дом, работа. А мой мілы выратавальнік быў шчаслівы, што справядлівасць узяла верх над бюракратызмам, што знайшоў-такі людзей, якія зразумелі і дапамаглі.

...Мінулі дзесяцігоддзі. Кожны верасень, калі з дрэў пачынае падаць жоўтае лісце, я да драбніц прыгадваю тую далёкую цёплую восень, лаўку на ліпавай алеі, спагадлівы позірк добрых вачэй самага дарагога для мяне чалавека — дырэктара дома-інтэрната. Яго імем я назваў свайго адзінага сына. Праз год ён закончыць універсітэт, стане перакладчыкам з нямецкай мовы. Жонка мая — бухгалтар. Працуе ў невялікай прыватнай фірме. Мінулым летам мы пахавалі маю старэнькую цётку, якую даглядалі з любасцю і пяшчотай. Яна пакінула нам у спадчыну свой прыватны дом на адной з самых прыгожых вуліц горада.

Я ведаю, што мой выратавальнік — дырэктар дома-інтэрната — жывы і здаровы. Праўда, цяпер ён працуе на іншай пасадзе. Нізкі паклон яму і самыя шчырыя словы ўдзячнасці. Можа, прачытае маю споведзь, то няхай ведае, што я памятаю яго не толькі ўсё жыццё. З яго імем я буду паміраць...

**З павагай, Іван Мікалаевіч.**
**Да друку падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

МИНСК–ТБИЛИСИ

# Гамарджоба, Сакартуэло!*

## В Грузии люди верят в «революцию роз», а беженцы захватывают гостиницы

*(Продолжение. Начало в №№57, 58.)*

Первое, что бросается в глаза в сегодняшнем Тбилиси, — это огромное количество маршрутных такси. Местные журналисты подсчитали, что каждые десять минут на центральной магистрали столицы — проспекте Шота Руставели — в обоих направлениях проезжает 250 маршруток. Раз в час на этот же проспект выезжает старый, словно наспех сколоченный из фанеры троллейбус и тысячи произведенных еще в советские времена тольяттинских “Лад”. Если и появится роскошный “Лексус” или “Мерседес”, то принадлежит он скорее всего какому-нибудь местному олигарху и членам его семьи или входит в кортеж президента Михаила Саакашвили.

### Станет ли Михаил Саакашвили генератором реформ в Грузии?

Если попробовать оценить одним словом нынешние настроения в Грузии, а также в странах, которые внимательно следят за ситуацией в этой стране, то это слово —"эйфория". Эйфория царит в грузинских коридорах власти, она же — в офисах международных структур, в обычных тбилисских квартирах. Изможденная межнациональными конфликтами, хроническим отсутствием инвестиций страна смотрит на нового президента Михаила Саакашвили как на мессию.

Вдыхая чистый кавказский воздух и проникаясь безграничным оптимизмом жителей Грузии, я сделал минутную паузу и ... испытал на себе эффект “дежа-вю” (где-то нечто подобное я уже видел). А потом вспомнил: Беларусь, 1994 год, нищета, коррупция, молодой президент, надежды...

Надежды на исключительную открытость и демократический, прозападный тонус нового грузинского лидера начали развеиваться по мере нахождения в Тбилиси. Зная, что находится на пике популярности, которой, возможно, больше никогда не будет, и легко проводя любые поправки в Конституцию страны, Саакашвили тем не менее не внял призывам оппозиции уменьшить проходной барьер в парламент для партий с 7% до 5%. А ведь в телекамеры, не моргнув глазом, Саакашвили неоднократно завлял, что жаждет, чтобы оппозиция в Грузии существовала, и что ему, мол, скучно с одними единомышленниками в парламенте...

И еще. Знаете, с чего начал Михаил Саакашвили наводить порядок в Тбилиси? Приказал разогнать уличных торговцев. В целях борьбы с антисанитарией, естественно. При этом одна пожилая грузинка буквально огорошила меня признанием: *“Как я люблю Мишу, он так похож на Сталина!..”*

*На узких тбилисских улочках.*

*Тбилисское такси — это почти всегда 20-30 летняя “копейка” с пенсионером за рулем.*

### Погода — кавказская, цены — минские

Солнце в Грузии ласковое и благодатное. Когда после белорусских весенних метелей и ночных заморозков попадаешь в лето, временно забываешь о трудностях жизни и не замечаешь больших цифр на ценниках в тбилисских магазинах. Переводить цены в белорусские рубли проще простого: один лари — одна тысяча рублей.

*молоко 1 л* — **2400 руб.,**
*хлеб ржаной, буханка* — **350—1400 руб.,**
*батон* — **500 руб.,**
*макароны 0,5 кг* — **2000 руб.,**
*кофе Nescafe 250 г* — **6000 руб.,**
*сок “J-7” 1 л* — **3450 руб.,**
*сметана 25% 0,5 л* — **2850 руб.,**
*говядина 1 кг* — **4500—6500 руб.,**
*свинина 1 кг* — **5500 руб.,**
*курица 1 кг* — **5000 руб.,**
*колбаса вареная “Микоян” 1 кг* — **13.500 руб.,**
*масло растительное 1 кг* — **5700 руб.,**
*кетчуп томатный 1л* — **3500—4800 руб.,**
*пиво 0,5 л* — **1000—2600 руб.,**
*вино “Киндзмараули” 0,75 л* — **7500 руб.,**
*чача “Особая” 0,5 л* — **15.600 руб.**

Хочу также отметить, что из-за низкой платежеспособности населения ассортимент в магазинах не слишком широк.

### «Опущенные» зарплаты

На фоне минских цен в тбилисских магазинах зарплаты жителей Грузии не поражают своим размахом. Инженер в частной фирме в среднем зарабатывает **80 долларов** в месяц, дистрибьютор-продавец, секретарь коммерческой фирмы, менеджер — по **100—150 долларов,** педагог — **15—30 долларов,** оператор компьютерного набора — **50 долларов.** Переводчик может “заколотить” до **200 долларов** в месяц, профессор, ученый, работающий в университете, — **50 долларов,** в частной фирме — **75 долларов.** Уборщица вынуждена выживать на **15 американских “рублей”** в месяц (в госучреждении) и **25 у.е.** (в частной фирме).



*Гостиница “Иверия”.*

Шофер и рабочий на стройке получают по **5 долларов** в день, врач получает в зависимости от количества обслуженных им пациентов — по **60 центов США** за каждого, пенсия в Грузии — **7—8 долларов.**

### Гостиница «Иверия» — символ современной Грузии

Гражданская война, которая разразилась в начале 90-х годов в одной из грузинских провинций — Абхазии, принесла кроме шести тысяч погибших многие тысячи беженцев. Часть из них проживает на юге Абхазии под протекцией ООН, другая часть ушла в “лесные братья”, третья, самая многочисленная, — захватила для проживания гостиницы по всей стране. Самый крупный из захваченных отелей — столичная гостиница “Иверия”, бывший символ Тбилиси, — сейчас напоминает огромную собачью будку с нелепо сколоченными каморками и сохнущим на балконах бельем.

За последние десять лет Грузию покинуло более полутора миллиона человек. Кроме погибших в войнах, это эмигранты в Россию и на Запад. Утверждают, что уехали лучшие, элита нации. Оставшиеся в стране четыре миллиона грузин находятся лицом к лицу с многочисленными проблемами: безработицей, перебоями со светом и водой, с самыми низкими в регионе зарплатами и пенсиями...

*(Окончание следует.)*

**Александр СИЛИЧ.**
**Фото автора.**

*Тбилиси.*

** Здравствуй, Грузия! (груз.)*

СЯБРЫ

# Анатоль і Тэадор

Перад вяртаннем дадому з санаторыя “Бярэсце” тэлефаную ў Брэст — Анатолю Палонскаму. “Не заедзеш у госці, дык пакрыўджуся”, — пачуў у слухаўцы.

Апошняя наша сустрэча была дзесьці каля двух дзесяткаў гадоў таму, калі працавалі разам у тагачаснай “Чырвонай змене”: Анатоль — уласным карэспандэнтам па Брэсцкай, я — па Гомельскай абласцях. Неяк дабраўся я да цешчы на аладкі ў Маларыцкі раён, ну, ён і падбіў мяне: “Паехалі на сустрэчу касманаўта Пятра Клімука з аднакласнікамі!”

Анатоль, несумненна, адпавядаў радкам знакамітай песні пра журналістаў “Трое суток шагать, трое суток не спать...”. Мне каб сказалі ехаць на тую сустрэчу, дык, пэўна, хутчэй у якую аддаленую вёсачку, да непрыкметнага героя, пра якога ніхто ніколі і не ўспомніў, накіраваўся б. А Толік ужо “ўзяў след”, і я за кампанію.

Як дабіраліся, гэта асобная тэма. Але ж дабраліся. Пабылі ў тым класе, пабачылі, якімі закаханымі вачыма глядзелі на славутага земляка былыя аднакласніцы: сапраўдны герой космасу, гонар Беларусі!

Зараз, калі чую гэтае гучнае імя, адчуваю нейкае шкадаванне: сёння славуты сын Беларусі чамусьці выступае за Саюз і хоча ўкласці ў галовы беларусам, як добра быць пад уладай двухгаловага арла...

Ды я не пра тое. Я пра Анатоля.

Хоць і праляцела неўпрыкмет столькі часу, але я часта чуў яго рэпартажы па радыё і на тэлебачанні, радаваўся: Анатоль зноў адшукаў нешта цікавае... Едзе ён, прыкладам, па дарозе, а збоч дзядзька коз пасе. Іншыя на такую “з’яву” — нуль увагі, а Анатоль ужо збочыў з дарогі, просіць аператара скіраваць аб’ектыў на пастуха. Усё адбываецца натуральна, як быццам той дзядзька трэніраваўся перад гэтым, нават прамову вывучыў на памяць... Аказваецца, і пра коз можна шмат чаго цікавага расказаць, калі ўмела тое зрабіць...

Памятаю, пытаюся аднойчы ў Генадзя Бураўкіна, тады старшыні Белтэлерадыё, ягоную думку пра рэпарцёра Палонскага.

— Анатоль? — у Генадзя Мікалаевіча твар азараецца раднай усмешкай. — Самы таленавіты, актыўны, мабільны...

Тады рэпарцёры давалі свае матэрыялы на роднай мове. Гучалі беларускія песні, у эфір ішло шмат даследаванняў на гістарычныя тэмы, частымі гасцямі былі выдатныя беларускія паэты і празаікі, спевакі і кампазітары... Сёння ж боязна ўключаць ды слухаць тыя радыё ці тэлевізар: бясконца льецца хлусня, а нашы нацыянальныя славутасці — Гілевіч, Бураўкін, Быкаў, Законнікаў, Казько, Петрашкевіч (доўжыць спіс імёнаў можна доўга) ледзь не аб’яўлены ворагамі свайго ж народа... Замест цікавых творчых сустрэч нас кормяць “партхозактывамі” з накачкамі і ківаннем пальца. А прысутныя чыноўнікі не падымаюць галавы і пішуць нейкі незразумелы дыктант...

Мая родная, некалі папулярная “Чырвоная змена”, якая выхавала не адну плеяду майстроў беларускага слова і якую любілі юнакі і дзяўчаты, стала для ўлад непажаданай — і “знікла”. Сыходзяць са старонак газет, з радыё- і тэлеэфіру тыя, хто не ўмее і не хоча трымаць нос па ветры.

Летась “Народная воля” пісала пра тое, як пазбавіліся таленавітага рэпарцёра з Брэста. Таленавітыя цяпер не ў модзе. Той, хто прапагандуе беларускае, жыве беларускім, — не ў пашане. Як жа маецца мой даўні сябра?

Шукаю дом па вуліцы “Набярэжная” (быццам няма годных імёнаў для назвы). Падымаюся на чацвёрты паверх.

Дзверы расчыніліся, і мы з гаспадаром абняліся.

— Ды ты маладзей выглядаеш, чым дваццаць год таму!

Тое ж шчыра кажу яму.

Пасівелі, пастарэлі, але не страцілі мы, здаецца, галоўнага — цягі да жыцця, веры ў добрае, у сваю Бацькаўшчыну...

Я не паспеў прайсці ў хату, як гасподаровы сабака забрахаў на мяне.

— Ты чаго так нязветліва сустракаеш госця? — супыніў пудзеля Анатоль.

Той брахнуў яшчэ разы са тры, бы нешта адказаў гаспадару.

— А, зразумеў... Пакрыўдзіўся, што госць не павітаўся з табою?

Я і не заўважыў, што Тэадор падняў для вітання лапу. Ён пазглядаў на мяне, чакаў, здзіўляўся, чаму такі бескультурны чалавек з’явіўся на парозе...

— Даруй, дружа, вінаваты... — нахіліўся я да яго і пацісну лапу.

Толькі тады Тэадор супакоіўся, заскочыў на канапу і паклаў лапу на вочы.

Мы з сябрам рады былі сустрэчы. Я паказаў яму свае кнігі публіцыстыкі, ён — свае. Мы гаварылі аб мінулым і сённяшнім, разважалі, чаму шмат вуліц на Брэстчыне ўсё яшчэ маюць назву Суворава і Леніна, а няма празвішчаў родных герояў — Каліноўскага і Касцюшкі? Чаму, як і паўсюль, мы чуем спрэс чужую мову? Дзвюхмоўе? Але ж рэальна — аднамоўе. Гэта ж здзек!

Шмат было такіх “чаму”. Анатоль раз-пораз заварвае гарбату, і хата напаўняецца пахам паляшуцкіх зёлак. Здаецца, мы ўжо не ў кватэры, а сярод кветак стракатай лугавіны, побач зумкаюць чмялі і пчолы...

Анатоль напявае адну і тую ж песню, гасіць у сабе гнятучы настрой, які мы стварылі сваімі “чаму”.

*Мы здалёк убачылі свабоду*
*І яшчэ не вырваліся з пут.*
*Божа, не дабаў майму народу*
*Пошасці, няпраўды і пакут...*

— Ведаеш, чые словы?

— Ведаю — Бураўкіна. Але не ведаю, чаму зараз не гучыць, як некалі, гэтая выдатная песня па радыё і БТ, чаму не гучыць “Пагоня” Багдановіча. А Валерый Мулявін спяваў яе!

...Гарбата — аж галава кружыцца ад пахаў. Ужо і тры гадзіны прагутарылі, і ўсе пяць, а нагаварыцца не можам. Дужа шмат накапілася ў душы.

— Так, — раптам абвясціў гаспадар, — а зараз пачынаецца канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Я нічога не разумеў: што за канцэрт? Анатоль урачыста ўдакладніў:

— Выступае пераможца міжнароднага конкурсу “Гаў” — непараўнальны спявак Тэадор Гаў!

І тут жа, пачуўшы сваё імя, ускочыў пудзель.

Анатоль пайшоў у другі пакой і вярнуўся з гармонікам. Уладкаваўся, узяў першыя акорды. Сабака, задраўшы галаву, патрапіў у танальнасць гаспадару; новы акорд — новы ўзлёт. І музыка, і “спявак” — адно цэлае! Гэта трэба было чуць — перадаць словамі нельга! Я смяяўся да слёз, а гарманіст і “Каруза” разыходзіліся ўсё больш.

— А што ён яшчэ ўмее, такі артыст?

— Тэадор! Пакажы нам, якой была мая асноўная прафесія?

“Артыст” пабег у суседні пакой і вярнуўся адтуль з мікрафонам у зубах. Паклаў яго побач з тэлевізарам.

Дзіўлюся: трэба ж!

— А цяпер пакажы нам, як абышліся тэлечыноўнікі са сваім рэпарцёрам...

Тэадор узяў мікрафон, паклаў яго на падлогу. Маўкліва падышоў да яго, задраў лапу і... Потым схапіў той мікрафон і панёс назад, кінуў у кардонную каробку...

Яшчэ разумны пудзель паказваў, як п’яны валацуга валяецца пад плотам і шмат іншых фокусаў.

Зноў смяяліся — і зноў вярнуліся да сур’ёзнага: да паэзіі, якую Анатоль вельмі любіць — і творчасць Генадзя Бураўкіна, і Янкі Брыля, і Ніла Гілевіча. На паліцы стаяць кнігі многіх беларускіх пісьменнікаў...

— Цёпла мне сярод іх, — прызнаўся гаспадар кватэры.

Ужо ссутоньвацца пачало за акном, ужо і святло пара запальваць. У мяне на каленях ляжыць “заслужаны артыст”, я лашчу яго, і рукі адчуваюць яго цяпло і прыхільнасць.

... Да прыпынку тралейбуса яны праводзілі мяне ўдвух.

Прыйшла пара развітвацца. Мы абняліся, пацconfigured адзін аднаму рукі.

І “Гаў” падаў мне для поціску лапу.

Я ўскочыў у тралейбус.

— Да сустрэчы!

А ў памяці былі словы песні, якую напяваў сябра:

*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*Калі ўсё вакол ідзе на злом,*
*Божа, захілі маю Радзіму*
*Мудрасцю, спакоем і цяплом.*
..

**Анатоль БАРОЎСКІ,**
**пісьменнік, старшыня Гомельскай абласной Рады ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”.**

